Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 170.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Аўторак, 17 лістапада 1998 г. № 123 (515) Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Шэйман трывожыцца

**Сітуацыю ў беларускай прамысловасці Віктар Шэйман напрамую звязвае з нацыянальнай бяспекай краіны.**



Пра гэта ён заявіў 13 лістапада на паседжанні рэспубліканскага штаба, які, нагадаем, быў створаны прэзідэнтам А.Лукашэнкам для вырашэння актуальных эканамічных праблемаў.

Па словах В.Шэймана, у краіне склалася крытычная сітуацыя з выплатай зарплаты: запазычанасць складае 1,3 трыльёна рублёў. Абвастрылася праблема беспрацоўя. Усе гэтыя пытанні, падкрэсліў дзяржсакратар Савета бяспекі, патрабуюць самага аператыўнага вырашэння, паколькі, як ён выказаўся, *«на змену рабочаму настрою ў шэрагу працоўных калектываў прыходзіць апатыя, пачуццё няўпэўненасці ў заўтрашнім дні»*.

**Наталля КУЛАГІНА**

## Долар трохі адпусцілі

**Цяпер Нацыянальны банк Беларусі ў чарговы раз спрабуе ажывіць легальны рынак наяўнай валюты.**

Цяпер *«упаўнаважаныя банкі і юрыдычныя асобы, якія маюць ліцэнзію на ажыццяўленне валюта-абменных аперацыяў»*, могуць устанаўліваць абменны курс у залежнасці ад попыту і прапановы. Аднак пра лібералізацыю рынку валюты гаварыць усё роўна нельга: у дакуменце Нацбанка *«максімальны курс здзелкі не павінен перавышаць афіцыйны курс Нацыянальнага банка РБ больш чым у паўтара раза»*.

Тым не менш амерыканскі долар, які на працягу апошніх трох тыдняў каштаваў у абменніках 79—80 тысяч рублёў, учора банкі куплялі ўжо па 96—98, а прадавалі па 99 тысяч рублёў (афіцыйны курс Нацбанка на 16 лістапада — 66 тысяч рублёў за долар).

*БелаПАН*

# Чарга па графіку

## *Жыхары Брэста і Гомеля становяцца ў чэргі пасля 16 гадзінаў*

Брэсцкія вертыкальшчыкі не толькі зменшылі нормы продажу прадуктаў, але абмежавалі і час гандлю маслам, каўбасамі, цукрам ды яйкамі.

З хуткасцю маланкі рэагуе вертыкаль на самыя бязглуздыя загады прэзідэнта. Ужо на наступны дзень пасля правядзення ў Мінску нарады па барацьбе з харчовым крызісам, на якой Лукашэнка загадаў спыніць «абнішчанне народа», кіраўніцтва Брэсцкай вобласці вырашыла яшчэ раз абмежаваць продаж прадуктаў. Калі раней масла можна было купіць 400 грамаў — цяпер толькі 200. З двух кілаграмаў да аднаго абмежаваны продаж вараных каўбасаў. А яек замест ранейшых трох дзесяткаў — дазволена прадаваць аднаму пакупніку толькі дзесяць штук. Гэткае распараджэнне пайшло з Брэста ва ўсе гарады і раёны вобласці ўжо 12 лістапада. Падпісаў яго намеснік кіраўніка аблвыканкама Аляксей Авечкін.

Аднак мэру Брэста Генадзю Масько і такое «ўразанне» нормаў падалося недастатковым. У пятніцу, 13 лістапада (сапраўды «чорны дзень») ён загадаў усім дзяржаўным крамам гандляваць каўбасамі, малочнымі прадуктамі, яйкамі ды цукрам толькі з 16-ці гадзінаў.

Не абышоў увагай брэсцкі гораданачальнік і прыватны сектар гандлю: другім пунктам свайго распараджэння пад нумарам 722 ён увёў абмежаванні на кошты мяса, каўбасаў, цукру і яек, якімі гандлююць на брэсцкім рынку. Гэта, бадай, першы выпадак, калі чыноўнікі сваімі распараджэннямі спрабуюць падпарадкаваць свабодны гандаль на базары. Забароненае ўздымаць цэны на згаданыя прадукты вышэй, чым у дзяржаўных крамах. Выключэнне зробленае толькі для гандляроў, якія прадаюць прадукты з асабістай гаспадаркі. Але, каб гэта даказаць, патрэбен дакумент. Напрыклад, хатняе паходжанне яек трэба пацвердзіць даведкай з сельсавета.

Вынікам гэтых распараджэнняў стала наступнае: у дзяржаўных крамах Брэста ў нядзелю мяса і вараных каўбасаў увогуле не было, на рынку свініна прадавала за 200 тысяч за кілаграм, што яшчэ тыдзень таму для Брэста было б фантастычным узроўнем. Яйкі з брэсцкага рынку зніклі ўжо зранку, гэта ж адбылося і з маслам.

У панядзелак бліжэй да 16 гадзінаў жыхары горада сем'ямі адправіліся ў дзяржаўныя крамы — займаць чэргі.

### Плюс «мабільныя брыгады»

Гомельскі гарвыканкам таксама выдаў распараджэнне, каб масла, цукар і яйкі прадаваліся ў крамах горада толькі пасля 16 гадзінаў.

Гэтая «камендацкая гадзіна» на продаж самых дэфіцытных прадуктаў харчавання ўведзеная для таго, каб у штурме прылаўкаў маглі прыняць удзел не толькі беспрацоўныя і пенсіянеры, але і людзі, якія працуюць у першую змену. Рэальна ж гэта прывяло да павелічэння памераў і без таго не малых чэргаў.

Адначасова ў Гомелі створаныя мабільныя брыгады, якія правяраюць выкананне прадаўцамі «нормаў водпуску тавараў у адны рукі». Кантралёры на выхадзе з крамы абшукваюць пакупнікоў і калі, напрыклад, знаходзяць у торбе не два (норма), а чатыры дзесяткі яек, то складаюць акт і адбіраюць «лішні» тавар.

Выканкамаўскія чыноўнікі лічаць, што прынятыя меры стабілізуюць сітуацыю на харчовым рынку. Хто паверыць?

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**
**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**

## *Эканоміка*

***Місія Міжнароднага валютнага фонду, якая знаходзілася ў Беларусі з мэтаю вывучэння становішча, прыйшла да высновы, што эканамічная сітуацыя ў нашай краіне за апошнія паўгода значна пагоршылася. Такую ацэнку выказаў кіраўнік місіі Томас Вульф.***

## *Даўгі*

***З пачатку гэтага года доўг Беларусі за расійскі газ павялічыўся на 163 мільёны долараў і цяпер складае 257,7 млн. USD. Знешняя запазычанасць за электраэнергію за гэты перыяд павялічылася на 86 мільёнаў долараў і дасягнула 106,6 мільёна. Такім чынам, доўг кожнага беларуса толькі за газ складае 25 долараў.***

## *Візіты*

***Па запрашэнні міністэрства знешнеэканамічных сувязяў у Мінску знаходзіцца дэлегацыя Палесцінскай аўтаноміі на чале з мэрам Газы. Палесцінцы плануюць наладзіць супрацоўніцтва з беларускай гандлёва-прамысловай палатай і Мінскім гарвыканкамам. У сераду дэлегацыю прыме міністр замежных справаў Іван Антановіч.***

# У «прэзідэнцыі» – новыя дзверы

**Як нам стала вядома, на мінулым тыдні ў рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі на Карла Маркса, 38 замянілі практычна ўсе дзверы — 220 штук.**

Цяжка сказаць, ці сапраўды была патрэба ў гэтай замене: будынак ЦК КПБ, дзе цяпер туліцца прэзідэнт, будаваўся з разлікам не на адно стагоддзе, і дзверы ў такім будынку таксама мусілі б надзейна выконваць свае функцыі як мінімум 50 гадоў.

Па словах некаторых супрацоўнікаў «прэзідэнцыі», новыя дзверы выглядаюць «проста шыкоўна — так і глядзеў бы на іх». Мы даведаліся, што дзверы для «галоўнага палаца» рабіліся на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце. Кошт кожных дзвярэй — ажно 100 мільёнаў рублёў. Такім чынам, уся «абноўка» абышлася ў суму 22 мільярды беларускіх рублёў.

Дзеля цікавасці мы патэлефанавалі на Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат і паспрабавалі замовіць дзверы «як у прэзідэнта». Нам адмовілі: па-першае, прэзідэнт краіны — толькі адзін, і таму такія ж дзверы яны не будуць вырабляць нікому. Па-другое, для «прэзідэнцкіх дзвярэй» ім спецыяльна пастаўлялі «незвычайную фарбу» — такой фарбы больш няма. У неафіцыйнай размове супрацоўнікі камбіната паведамілі, што фарба — фінская, і маленькая бляшаначка яе каштуе 5 мільёнаў рублёў.

Дарэчы, гэта ўжо не першы выпадак замены «прэзідэнцкіх дзвярэй». Улетку ў рэзідэнцыі ў Драздах былі ўстаноўленыя дзверы з натуральнага дуба, але іх паверсе пафарбавалі белай алейнай фарбай з залатым кантам. І яшчэ адна дэталь: у прыбіральню паставілі дзверы з самым сапраўдным замком, што запіраюцца на ключ. Цікава: ад каго?

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Прафсаюзы рыхтуюць марш

**2 снежня прафсаюзы збіраюцца правесці масавыя акцыі пратэсту ў Мінску і іншых гарадах.**

Лідэры сямі буйнейшых прафсаюзаў Беларусі заявілі аб стварэнні Каардынацыйнага савета па арганізацыі масавых акцыяў пратэсту ў сувязі з падзеннем узроўню жыцця працоўных.

Як адзначаецца ў адпаведнай заяве, мэта акцыяў, якія плануецца правесці 2 снежня ў Мінску і шэрагу рэгіёнаў рэспублікі, — прыцягнуць увагу ўладаў да сацыяльна-эканамічных праблемаў, якія рэзка абвастрыліся апошнім часам. Арганізатары заклікаюць усіх працоўных рэспублікі падтрымаць акцыі пратэсту і прыняць у іх актыўны ўдзел.

Заяву падпісалі старшыні прафсаюзаў работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці, Нацыянальнай акадэміі навук, машына- і прыборабудавання, абароннай, электратэхнічнай і паліўнай прамысловасці, а таксама народнай адукацыі.

*БелаПАН*




# Рыхтуйся да доўгай працы

**У 1999 годзе з дзевяці святаў, якія афіцыйна адзначаюцца ў Беларусі, пяць прыпадаюць на выхадныя дні.**

Нагадаем, што ў адпаведнасці з указам прэзідэнта ад 26 сакавіка 1998 года, непрацоўнымі святочнымі днямі з'яўляюцца: 1 студзеня — Новы год; 7 студзеня — Нараджэнне Хрыстова (праваслаўнае); 8 сакавіка — Дзень жанчын; 20 красавіка — Радаўніца; 1 мая; 9 мая — Дзень Перамогі; 3 ліпеня — Дзень Рэспублікі; 7 лістапада; 25 снежня — Божае Нараджэнне (каталіцкае).

Заўважым, што пачынаючы з 1 мая ўсе святы прыпадаюць на суботу або нядзелю, так што дадатковага адпачынку не прынясуць. Усяго ж у 1999 годзе 257 рабочых дзён — гэта будзе самы «доўгі» працоўны год у гісторыі Рэспублікі Беларусь.

**Магдалена НЕПАКАЙ**

# Лявонаву «прышылі» тры артыкулы

**Закончылася следства па справе былога міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава.**

Яму прад'яўлена абвінавачанне як мінімум па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса, якія адносяцца да сферы гаспадарчых злачынстваў. Матэрыялы крымінальнай справы складаюць каля 40 тамоў. Васіль Лявонаў прыступіў да азнаямлення з імі. Экс-міністр сельскай гаспадаркі па-ранейшаму знаходзіцца ў следчым ізалятары, дзе і будзе знаёміцца са справай. Нагадаем, што арыштаваны ён быў роўна год таму — 11 лістапада 1997 года.

Па словах аднаго са следчых генпракуратуры Уладзіміра Клопава, з гэтай аб'ёмнай справы выдзелены ў асобную вытворчасць некалькі крымінальных спраў, расследаванне якіх працягваецца. Як сказаў следчы, ён не разумее сцвярджэнняў, што Лявонаў з'яўляецца палітычным зняволеным. *«Яго дзеянні ў эканамічнай сферы,* — лічыць следчы, — *нанеслі вялікі ўрон дзяржаве. І ў той жа час выяўлены факты значнага асабістага абагачэння, будаўніцтва ў асабістых мэтах».*

БелаПАН



*Міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў і старшыня АТ «Рассвет» Васіль Старавойтаў (здымак з архіва СВАБОДЫ).*

# Справу Старавойтава чытае суддзя

**Крымінальная справа былога старшыні «Рассвета» Васіля Старавойтава і яшчэ двух кіраўнікоў з гэтай гаспадаркі перададзеная ў суд Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці.**

Нагадаем, што В.Старавойтаў абвінавачваецца па дзесяці артыкулах Крымінальнага кодэкса: крадзяжы ў асабліва буйных памерах, хабарніцтва, арганізацыя кантрабанднага вывазу праз мяжу буйной сумы валюты, незаконнае набыццё і захоўванне зброі і інш. Аднак сам Старавойтаў прызнаў сваю віну толькі часткова па двух артыкулах.

Звычайна ў судовай практыцы для азнаямлення са справай і падрыхтоўкі да пачатку судовага паседжання даецца да 24 дзён. Аднак суддзя Кіраўскага раённага суда Надзея Чмара ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН паведаміла, што з-за аб'ёмнасці матэрыялу — больш за 50 тамоў — суд можа пачацца пазней. Па словах суддзі, і сам працэс будзе вельмі працяглым.

74-гадовы Васіль Старавойтаў, які пакутуе на шэраг сур'ёзных хваробаў, знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ з 11 лістапада 1997 г.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Калгасы загрузлі



**Чакаецца, што па выніках гэтага года каля 600 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Беларусі будуць стратнымі (летась іх было 247).**

Такія дадзеныя паведаміў міністр сельскай гаспадаркі Іван Шакола. Сярод асноўных прычынаў такой сітуацыі ён назваў *«складаныя кліматычныя ўмовы»*, з-за якіх валавы збор збожжавых аказаўся на 1,3 мільёна тон меншы, чым летась. Акрамя таго, вялікія страты прыносіць вытворчасць малака, ялавічыны, мяса птушкі. Імклівы рост цэнаў на рэсурсы *«не дазваляе весці рэнтабельную гаспадарку»: «калі затрацііў рубель, а вярнуў 75 капеек, весці гаспадарку дастаткова складана...»* У сувязі з гэтым, адзначыў І.Шакола, *«падскочыў доўг па электраэнергіі і заработнай плаце»*, які дасягнуў амаль 4 трыльёнаў рублёў.

БелаПАН

*Беларусь—Літва*

# Прэзідэнты сустрэліся на мяжы

**Прэзідэнты Беларусі і Літвы Аляксандр Лукашэнка і Валдас Адамкус выказаліся за развіццё добрасуседскіх адносінаў падчас сустрэчы 12 лістапада на прыгранічным кантрольна-прапускным пункце Мядзінінкай—Каменны Лог.**

Прэзідэнты абмяняліся інфармацыяй аб эканамічнай і палітычнай сітуацыі ў сваіх дзяржавах, абмеркавалі пытанні двухбаковых адносінаў і магчымасці рэгіянальнага супрацоўніцтва. У прыватнасці, Лукашэнка і Адамкус выказаліся за пашырэнне кантактаў паміж грамадзянамі, няўрадавымі арганізацыямі, установамі друку і інфармацыі дзвюх краінаў. У сувязі з гэтым прэзідэнты дамовіліся аб стварэнні сумеснага фонду імя Ф.Скарыны.

Як адзначаецца ў афіцыйным паведамленні, была таксама дасягнута дамоўленасць, што беларускі бок прыме неабходныя меры для пагашэння даўгоў перад літоўскімі экспарцёрамі за пастаўляемую ў Беларусь электраэнергію.

Прэзідэнты выказалі зацікаўленасць у найхутчэйшым завяршэнні дэмаркацыі літоўска-беларускай мяжы і развіцці яе інфраструктуры, надаючы асаблівую ўвагу павелічэнню прапускной здольнасці ў пунктах пропуску праз мяжу, а таксама стварэнню сістэмы надзейнага пагранічнага кантролю.

БелаПАН

# Карагін раздаў сорак тысяч візітовак

Уладзімір Карагін, старшыня Беларускага саюза прадпрымальнікаў, правёў у Гродне сход, каб патлумачыць мясцовым прадпрымальнікам, як ім далей жыць. Ён пачаў агітаваць за стварэнне філіяў свайго саюза ў кожным райцэнтры. Маўляў, 80% прадпрымальнікаў не выжывуць у цяперашніх жорсткіх умовах, ацалеюць толькі згуртаваныя — тыя, хто будзе «нестандартна» працаваць з уладамі.

Менавіта дзеля гэтага ў сталіцы створаная Канфедэрацыя прадпрымальніцкіх саюзаў. Яна патрэбная для салідчасці, каб весці перамовы, але не з урадам або кім-небудзь яшчэ, а менавіта з самім прэзідэнтам Лукашэнкам, патлумачыў Карагін.

Сталічны прамоўца прызнаўся, што за 12 гадоў прадпрымальніцкай дзейнасці раздаў 40 тысяч візітовак, стараўся вучыць пачаткоўцаў. Аднак ён лічыць, што палову гэтага часу змарнаваў. Цяпер ён пакідае бізнес і цалкам пераходзіць працаваць у Саюз прадпрымальнікаў, каб па-сапраўднаму ўмацаваць яго, падтрымаць тых, хто рэальна здолее выжыць у неспрыяльных умовах. Абяцаючы падтрымку новым членам, ён паабяцаў, што «піва будзе для членаў прафсаюза», г.зн. яны атрымаюць ад уступлення сапраўдную карысць. Па-першае, можна будзе разлічваць на грошы з нібыта абяцаных уладамі на наступны год 500 мільярдаў рублёў з бюджэту на падтрымку прадпрымальніцтва. А па-другое, усе члены будуць мець «прывілей» асабістага доступу да самога прэзідэнта і мінскага мэра.

Сярод прысутных панавалі песімістычныя настроі, на «добрага цара» яны зусім і не спадзяюцца. А старшыня абласнога прадпрымальніцкага саюза Станіслаў Буйніцкі параіў калегам часцей наведваць касцёл, каб задумацца над жыццёвымі цяжкасцямі і хоць крыху супакоіцца, што апошнім часам робіць ён сам. Уладзімір Карагін тут жа паведаміў, што, бываючы за мяжой, заўсёды стараецца паставіць свечку за прадпрымальнікаў у тамтэйшых касцёлах. Але прысутныя, падобна, не вельмі ўспрынялі гэтае прызнанне. Па-першае, свечкі ў храмах усё ж ставяць па памерлых. А па-другое, гэтая традыцыя датычыць праваслаўных. Каталікі звычайна ставяць свечкі на магілках. Карацей кажучы, словы госця прагучалі, як змрочны жарт.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Наваселле ў нямецкім консуляце

**У пятніцу ў Мінску адбылася цырымонія адкрыцця візавага аддзела пасольства ФРГ у новым памяшканні.**

Нямецкі консулят вымушаны быў пераехаць з ранейшага будынка, які знаходзіцца ў аварыйным стане. Некалькі разоў амбасада звярталася да беларускіх уладаў з просьбай прадаставіць іншае памяшканне ў цэнтры горада. Не атрымаўшы станоўчага адказу, нямецкія дыпламаты ўзялі ў арэнду будынак, які належыць прыватнай фірме. Візавы аддзел цяпер размясціўся ў раёне трактарнага завода, на вуліцы Будзённага, 10.

Наваселле нямецкага консулята спраўляў часова паверены ў справах ФРГ Петэр Кольб. На імпрэзу былі запрошаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацыяў і журналісты. Кіраўнік дэпартамента знешніх сувязяў Беларускага Экзархата айцец Фёдар асвяціў памяшканне консулята, які штогод выдае каля 80 тысяч візаў беларускім грамадзянам.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# В «деле нотариусов» – перелом?

**Указ Александра Лукашенко о взыскании с частных нотариусов «необоснованно приобретенной госпошлины» не имеет обратной силы. К такому выводу пришел судья Лидского района Вячеслав Мацук.**

С правовой точки зрения такой вывод — единственно возможный. Однако в наших условиях, когда приказ начальства для судов значит больше, чем закон, принятие правового решения требует от судьи мужества и честности. К сожалению, далеко не все наши служители Фемиды обладают этими качествами. По меньшей мере, девять судей, которые рассматривали аналогичные дела, приняли решение взыскать деньги с частных нотариусов. Общая сумма средств, подлежащих взысканию, уже превышает 8 миллиардов рублей. В ближайшем будущем она может многократно возрасти — по стране запланировано около сотни судебных процессов такого рода.

Лидский судья В.Мацук в своем решении отметил, что до появления указа А.Лукашенко существовали другие нормативные акты, в соответствии с которыми и работали частные нотариусы. *«Какого-либо иного порядка получения ими вознаграждения не предусматривалось, и именно на этих условиях они осуществляли свою деятельность»,* — говорится в решении. Посему в исковых требованиях о взыскании с нотариуса Терессы Тетерук 300 с лишним миллионов Лидский райсуд отказал.

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Пастар са Швейцарыі дбае пра чарнобыльцаў

## Евангелічная царква Швейцарыі даставіла ў Беларусь чарговы груз гуманітарнай дапамогі

Два грузавыя «Мерседэсы», запоўненыя медыцынскім абсталяваннем, інструментарыем і медыкаментамі коштам 40 тысяч долараў ЗША, перададзеныя Хойніцкай і Брагінскай раённым бальніцам Гомельскай вобласці. Пра гэта паведаміў у пятніцу на прэс-канферэнцыі ў Мінску пастар са Швейцарыі Готфрыд Вернлі.

У 1991 годзе пастар Готфрыд упершыню наведаў Чачэрскі, Веткаўскі, Жлобінскі, Добрушскі і Хойніцкі раёны Гомельскай вобласці, што пацярпелі ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. *«Я быў усхваляваны ўбачаным і вырашыў прысвяціць частку жыцця вашай краіне»,* — адзначыў пастар. Яму ўдалося прыцягнуць да збору сродкаў для аказання гуманітарнай дапамогі пацярпелым раёнам Беларусі грамадскасць Швейцарыі, а таксама паштовае ведамства краіны. Летам 1996 года пастар прывёз у Беларусь «Мерседэс» — хуткую дапамогу, запоўненую медыцынскімі прыборамі і інструментарыем для Хойніцкай бальніцы. Паток гуманітарнай дапамогі ўзрос пасля дэманстрацыі па Швейцарскім тэлебачанні нарыса аб постчарнобыльскай Беларусі. У апошнія два гады пастар перадаў 11 тон гуманітарных грузаў дзіцячым дамам у Чэрвені (Мінская вобласць) і Веснава (Магілёўская вобласць), аўтамашыну з вітамінамі для дзяцей Хойніцкага і Брагінскага раёнаў, 10 тон гуманітарнай дапамогі жыхарам Хойніцкага і Калінкавіцкага раёнаў.

Па словах Готфрыда Вернлі, у Швейцарыі рыхтуецца калядны падарунак дзецям Брагінскага і Хойніцкага раёнаў — гадавы аб'ём неабходных ім вітамінаў.

БелаПАН

# Симметричный шок

## *Исполнительный секретарь СНГ Борис Березовский считает, что «налицо глубочайший кризис СНГ»*

В статье, опубликованной в пятницу в российской «Независимой газете», он пишет: *«Вместо семи лет интеграции мы, по сути, имеем семь лет дезинтеграции». «В итоге семи лет существования СНГ мы имеем виртуальное интеграционное объединение».*

В статье Б.Березовский также анализирует причины распада СССР. *«Невозможно выстраивать Содружество независимых государств, не разобравшись в причинах развала СССР»,* — считает он. По его мнению, *«основная причина коллапса СССР — неспособность коммунистов решить национальный вопрос».*

Б.Березовский касается и экономических причин распада Союза. *«Судьба Союза была предрешена не в дни путча, а тогда, когда российское правительство осенью 1991 г. объявило о том, что с 1 января оно начинает реализовывать собственную программу мер по переходу к рынку, не дожидаясь остальных республик»,* — считает он.

В итоге, высказывает мнение исполнительный секретарь СНГ, *«на одинаковый импульс — необходимость реагировать на резко ухудшившееся экономическое положение — союзные республики ответили по-разному». «Это была асимметричная реакция на симметричный шок. Такая асимметричная реакция, если речь идет о достаточно продолжительном шоке, несовместима с существованием единого экономического пространства»,* — отмечает Б.Березовский.



*«К сожалению, история может повториться вновь. Сегодня, в условиях очередного шока, на него проявляют асимметричную реакцию разные регионы России, принимая самостоятельные решения о путях выхода из кризиса»,* — предупреждает он.

**З.Н.**

# Чужая тюрьма лучше

**В ночь с четверга на пятницу в римском аэропорту «Леонардо да Винчи» итальянские пограничники арестовали лидера Курдской рабочей партии (КРП) Абдуллу Оджалана, объявленного Интерполом в международный розыск по обвинению в терроризме.**

Как мы уже сообщали, лидер КРП до последнего времени находился в России, турецкие власти требовали его выдачи. На защиту Оджалана стала российская Госдума, которая большинством голосов высказалась за то, чтобы предоставить ему политическое убежище. Но в конце-концов ситуация разрешилась ко всеобщему удовольствию. Россия избавилась от «гостя» — то ли борца за независимость, то ли международного террориста, при этом не испортив окончательно отношений ни с Турцией, ни с курдским национальным движением (созданным не без участия СССР). Анкара тоже довольна и теперь собирается добиваться от Италии выдачи Оджалана.

Сам Оджалан, как ни странно, тоже не в обиде: он попал в руки правосудия демократической страны, чьи власти десять раз подумают, прежде чем выдадут Оджалана Турции, где его ждет суд и смертный приговор. Оджалан уже обратился к итальянским властям с просьбой о политическом убежище. И не исключено, что он его получит. Ведь КРП — группировка марксистского толка, а среди влиятельных итальянских коммунистов, лидер которых, кстати, возглавляет нынешнее правительство, немало сочувствующих курдскому лидеру. Еще до того как Интерпол выписал ордер на арест Оджалана, тот получил от властей Италии официальное приглашение посетить эту страну с частным визитом. Вот только рассчитывал он на более теплый прием.

**С.Г.**

# Страна взяточников

**Две трети россиян, ведущих собственный бизнес, признают, что хотя бы однажды были вынуждены давать взятки государственным чиновникам.**

В опросе, проведенном агентством «РосБизнесКонсалтинг», приняли участие 4.057 респондентов. На вопрос «Приходилось ли вам давать взятки госчиновникам?» отрицательно ответили лишь 36%. 32% опрошенных давали взятки неоднократно; постоянно вынуждены давать взятки 1.091 человек (27%).

# Безработных стало меньше

**В сентябре впервые за последние шесть лет количество безработных опустилось в странах Евросоюза ниже 10-процентной отметки.**

В конце сентября в пятнадцати странах ЕС было зарегистрировано 16 миллионов 600 тысяч безработных, что составляет 9,9% активного населения. В период с декабря 1992 года до сентября 1998-го три страны добились впечатляющих результатов в борьбе с безработицей: в Дании количество незанятого населения сократилось с 10% до 4,3%, в Ирландии — с 15,6% до 8,8%, в Великобритании — с 10,8% до 6,3%. Напротив, за эти шесть лет количество безработных увеличилось в Германии (с 7,1% до 9,5%) и в Италии (с 9,2% до 12,3%).

# Бжезиньский заслужил орден

**Вчера, 16 ноября с трехдневным визитом в Литву прибыл известный американский политолог Збигнев Бжезиньский, бывший советник президента США по вопросам национальной безопасности.**

Кроме чисто деловых и этикетных встреч с высшим руководством страны, Збигнева Бжезиньского ожидает и весьма приятное событие личного плана — его наградят орденом за особые заслуги перед Литвой. З.Бжезиньский посетит также штаб-квартиру совместного литовско-польского миротворческого батальона ЛИТПОЛБАТ в г.Алитус, выступит на пленарном заседании Сейма Литвы.

*По сообщениям информационных агентств*

*Взгляд из Москвы*

# Где лучше быть «негром»?

## *Русский расизм и американская политкорректность*

**Борис КАГАРЛИЦКИЙ**

С начала 90-х годов россияне официально полюбили все американское. То есть на самом деле любили и раньше, но неофициально, напевая под сурдинку *«Good bye, America, oh!»* После окончания перестройки американский стиль стал ассоциироваться с успехом, современностью, эффективностью. Его насаждало телевидение, пресса, да и сами люди с удовольствием перенимали все, что могли. Но есть лишь одна американская концепция, которую российское общество категорически не приняло — политическая корректность.

### Корректность на каждый день

А ведь для сегодняшней Америки это своего рода официальная идеология повседневной жизни, норма, которую тоже далеко не все принимают, но почти никто не решается оспаривать.

Американская политкорректность родилась из осуждения дискриминации. К началу 70-х обнаружилось, что в демократической Америке в неравном положении находятся многочисленные категории граждан, начиная от негров и женщин, кончая гомосексуалистами и инвалидами. Имея формально те же права, что и «правильные» белые мужчины, на практике они не могли продвинуться ни в бизнесе, ни в государственном секторе. И Америка принялась исправлять вину перед собственными гражданами. Появились всевозможные программы, квоты. А главное, на идеологическом уровне началось утверждение равноправия.

Равноправие в начинается в детском садике. В любом американском полицейском сериале рядом с белым супер-героем появляется не менее крутой негр. Президиумы собраний стали «многоцветными». Рядом с белыми манекенщицами на подиумах появились цветные, дикторы телевидения перестали быть воплощением англосаксонского типа. В речи появились новые табу. Слово «негр» и даже «черный» вышло из употребления, его положено было заменить на «афро-американец». Во время университетских заседаний тщательно следят за тем, чтобы мужчины не получали слова чаще женщин, а белые чаще негров и латиноамериканцев. Кто собирается говорить по делу, а кто нет — неважно.

Если вы хотите устроиться на работу в государственное учреждение, лучше всего быть негром-инвалидом и вдобавок гомосексуалистом.

### Москва и Нью-Йорк — где лучше быть «негром»?

Всякий раз, когда я оказываюсь в Соединенных Штатах, политкорректность кажется мне смешной и наивной, а иногда и навязчивой. Но стоит вернуться в Россию и послушать, что говорят на московских улицах, как я немедленно превращаюсь в ее горячего сторонника.

Впрочем, можно найти Москву и в Нью-Йорке. Нигде в Америке я не сталкивался с таким откровенным и бесстыдным расизмом, как на Брайтон Бич. Здесь в «маленькой Москве» и «маленькой Одессе» живут бывшие советские люди. Они уверены, что все проблемы Америки — от засилья черных и «латиносов». Они винят их во всем — в грязи на улицах, в преступности, в растрате общественных средств, идущих на содержание «бездельников». Правда, у самих жителей Брайтон Бич в Нью-Йорке репутация не самая лучшая. Этот район считается одним из самых бандитских, причем здесь процветают преступления, о которых до приезда «наших» в Америке даже не слыхали. Кто бы, например, мог додуматься разбавлять бензин водой или давать взятки дорожному инспектору вместо штрафа за нарушение скорости? Значительная часть населения так и не удосужилась выучить английский и отличается поразительным нежеланием наниматься на работу легальным образом. Налогов стараются не платить, зато по официальной статистике тут больше народу получает государственные пособия, чем в самом нищем негритянском или пуэрториканском гетто (говоря на местном жаргоне, «сидит на велфэре»).

Но в общем с Брайтон Бич все просто и понятно. Здесь замешано обычное соперничество: а вдруг «велфэра» на всех не хватит? Легко понять ненависть и зависть полуграмотного одессита, который за десять лет не выучил ни слова по-английски, к негру с университетским дипломом. Куда сложнее понять столь же высокий накал расизма, когда оказываешься в Москве. Здесь-то кому негры мешают?

А между тем говорят (а порой и в газетах пишут) такое, что становится стыдно и страшно. *«В Вашингтоне мне не понравилось,* — рассказывает талантливый молодой программист, — *слишком много черных».* Студент, только что вернувшийся со стажировки в Соединенных Штатах, хвастается перед друзьями: *«Потрясающий колледж! Туда совершенно не берут негров!».* Типичная деловая женщина, сотрудница австро-американской фирмы жалуется: *«Я хотела поехать в Южную Африку, но теперь уже не поеду, там у власти черномазые».*

*«Может быть я расистка,* — говорит другая симпатичная дама, прогуливаясь с детской коляской, — *но я ненавижу этих черных».* Мне особенно нравится ее трогательное сомнение: «может быть»... И самое ужасное, что мои собеседники — во всех отношениях достойные и приличные люди. Протестовать и ссориться бессмысленно. Они просто не понимают. Но и терпеть невозможно.

Сейчас в России во всем принято винить «реформы». В данном случае они ни при чем. Жители Брайтон Бич уехали, когда еще был СССР. И расизм специально никто в России не насаждал. Правда, с ним никто и не боролся. Похоже, что настроения, подспудно зревшие в советском обществе, просто вырвались наружу. Советское «интернациональное воспитание» на практике оказалось своей противоположностью. Это стало заметно уже в годы перестройки. Помню, еще при Горби, известный эстрадник по телевизору рассуждал про то, как мы, советские, помогаем разным африканцам, а они еще только с дерева слезли. И тут же разыгрывал соответствующую пантомиму. Телевизор показывал зал, ревущий от восторга. В Америке после подобной передачи этот человек провел бы остаток своих дней, таскаясь по судам.

К счастью для негров, их в России пока не очень много. Потому «черными» в массовом сознании назначили кавказцев (хотя они по расовым признакам являются арийцами). Ненависть к этим «черным» не только широко распространена, но порой и принимает совершенно иррациональные формы.

Газета «Завтра», например, возмущается, что кавказцы *«захватили торговлю наркотиками и оружием».* Видимо, авторы газеты уверены, что все пойдет хорошо, когда этими достойными видами бизнеса будут заниматься русские.

Вся эта расистская демагогия, естественно, восходит к традиционному российскому антисемитизму. С ним и борются официальные власти, хотя проблема давно изменила форму. Так или иначе, но даже расистски настроенные граждане сейчас евреев считают за «белых людей». Публичные выражения антисемитизма пресекаются, а в «интеллигентной» среде просто невозможны. Даже те, кто очень не любят евреев, стыдятся говорить об этом открыто.

Короче, антисемитизм стал в России стыдливым и трусливым. Чего не скажешь о расизме, вне зависимости от того, имеются ли в виду «черные» негры или «черные» кавказцы.

Российское образованное общество антисемитизм осуждает. А к расизму относится с поразительной терпимостью и благодушием. Причина проста: многие из тех, кто возбужденно кричат про «фашистскую опасность», сами являются в душе злобными расистами.

*Здарэнні*

## Смерць на вуліцы

**Целы новых ахвяраў зімовых халадоў знойдзеныя ў Гомелі.**

За адну ноч напрыканцы мінулага тыдня на гомельскіх вуліцах замерзлі тры чалавекі: двое мужчын і адна жанчына. Усе яны былі старэйшыя за 50 гадоў. Цяпер міліцыя высвятляе іх асобы.

*БелаПАН*

## Спакуса застаецца

**На Мазырскай нафтабазе выявілі недастачу — прапала 212 тонаў паліва, акрамя таго выявілі фінансавыя парушэнні.**

Гаспадары базы тлумачаць гэта «недахопам кампетэнцыі і вопыту работы» ў начальніка нафтабазы В.Еўжыка, які працуе на гэтай пасадзе толькі год. Цікава, што тры папярэднікі цяперашняга начальніка базы былі ў свой час пазбаўленыя волі за крадзеж нафтапрадуктаў. Здаецца, ёсць тэндэнцыя...

**Уладзімір ВАЛЕЎСКІ**



*З наступленнем маразоў значна павялічылася колькасць пажараў. На здымку: 60-гадовая жанчына моліцца і хрысціцца з іконай у руках за тое, каб вецер не гнаў агонь пажару на жылыя дамы. Вёска Слабодка Лепельскага раёна.*

## Пажар адключыў святло

**У кватэрах жыхароў Заводскага і Партызанскага раёнаў Мінска ў чацвер раптоўна знікла святло. Прычына — пажар на ЦЭЦ-3.**

Пажар на станцыі пачаўся каля гадзіны дня — гарэў электрычны кабель. У тушэнні пажару прымалі ўдзел экіпажы 6 пажарных машын. Праз дзве гадзіны агонь удалося спыніць.

Электрычнасць у кватэрах з'явілася толькі пад вечар, а некаторым жыхарам вуліцы Ангарскай давялося чакаць святла аж да раніцы наступнага дня.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## Ні кароў, ні правоў

У Гродзенскім раёне адзін вясковец, сеўшы за руль «Жыгулёў» нападпітку, уехаў у статак кароў, якія ішлі па дарозе. Дзве рагулі загінулі, сам ён трапіў у бальніцу. Віна пацярпелага відавочная. Цяпер яму давядзецца сплаціць кошт дзвюх жывёлін, а таксама развітацца з вадзіцельскімі правамі.

**С.М.**

## Олимпийский «Плейбой»




Долгие годы журнал «Плейбой» тщетно пытался заполучить олимпийскую чемпионку по фигурному катанию Катарину Витт в качестве фотомодели. И вот — свершилось! Снимки великолепной немки украсят обложку и десять внутренних полос декабрьского номера журнала.

## Жена жене рознь

**Объединенные Арабские Эмираты решили смягчить правила въезда для иностранных туристов.**

Доселе замужним женщинам, не носящим фамилию супруга, въехать в эту исламскую страну было практически невозможно. Отныне дамам в возрасте от 17 до 35 лет, которые в паспорте сохранили девичью фамилию (или фамилию от предыдущего брака), въезд в ОАЭ разрешен — но только в сопровождении актуального мужа. Таким образом снимаются ограничения, которые действовали ранее и тем самым затрудняли доступ на курорты ОАЭ многим женщинам — прежде всего из стран СНГ, где, как свидетельствует статистика, в последнее время все больше женщин выходят из зала бракосочетаний со своей фамилией.

## Кого в Англии уважают?

**В списке людей, пользующихся наибольшим влиянием в Великобритании, полно иностранцев.**

Правда, первую строчку в этой табели о рангах занимает премьер-министр страны Тони Блэр. Но сразу же за ним следует австралийский магнат Руперт Мэрдок, который владеет в Великобритании рядом газет, включая самую массовую «Сан», и телеканалами «Скай». Третью позицию занимает глава и владелец американской компании «Майкрософт» Билл Гэйтс. Список, включающий 300 человек, составлен на основе широкого опроса. Сумел войти в британскую десятку и президент США Билл Клинтон, занявший 7-е место. Среди женщин наибольшим влиянием пользуется министр по делам Северной Ирландии Мо Молан, которая заняла 28-е место. Королева Елизавета II оказалась на 30-й позиции.

## Дезертир поневоле

**Несколько лет назад Геннадий Мамедов прибыл в Израиль с Украины на учебу.**

Там по достижении 18 лет он был призван в армию и дослужился до сержанта. В марте этого года Мамедов взял месячный отпуск, чтобы навестить родителей, но, прибыв в Киев, был арестован по обвинению... в уклонении от службы в украинской армии. За решеткой Мамедов провел три месяца, а оказавшись на свободе, тут же купил авиабилет до Израиля. Увы, и в тамошнем аэропорту его задержали как дезертира, не вернувшегося вовремя в часть. К счастью, израильский суд Мамедова оправдал, учтя не зависящие от него обстоятельства, и сержант вернулся в строй.

## Бомж в Лувре

**В поисках места ночлега Марк М., 27-летний парижский бомж, проник ночью в одно из служебных помещений Лувра, взломав ставни и выдавив оконное стекло.**

При этом он даже не подозревал, куда попал: уж очень хотелось спрятаться от дождя. Расположившись на диване, Марк уже собрался было заснуть, как вдруг был потревожен ворвавшимися в помещение охранниками. Из-за четко сработавшей сигнализации уютного ночлега у бомжа так и не получилось, зато и в посягательстве на «Джоконду» или Венеру Милосскую его не обвинили. Как поведали охранники, чтобы проникнуть в выставочные залы, Марку пришлось бы взломать еще три бронированные двери.

## Число католиков уменьшается

В мире становится все меньше и меньше католиков. Как сообщило радио Ватикана, за последнее 20-летие их число снизилось с 18 процентов до 17,5%. Сейчас на Земле насчитывается всего порядка одного миллиарда католиков из 6 миллиардов человек, населяющих планету. Ватикан объясняет это явление большим приростом населения в странах, исповедующих нехристианские религии.

## Из рыбацкого – в поселок миллионеров

**Рекордный для всей Европы выигрыш — более 63 миллиардов лир (около 40 миллионов долларов) — выпал на один из билетов итальянской национальной лотереи.**

Обладатели билета, который в пачке с другими был куплен в складчину жителями небольшого рыбацкого поселка Пескичи, что на самом каблуке итальянского «сапога», в одночасье стали миллионерами. Действуя по плану, разработанному «мозговым центром» операции — владельцами газетного киоска, 100 жителей поселка — безработные, рыбаки, крестьяне, лавочники, коммерсанты — купили несколько сотен билетов и заполнили их по предложенной двумя предприимчивыми земляками системе. Как ни странно, но она сработала... Истратив по 25 тысяч, каждый выиграл по 640 миллионов лир. Причиной баснословного выигрыша стало то, что за последние 11 недель ни один из участников лотереи не мог отгадать выигрышную комбинацию из шести цифр.

*По материалам зарубежной прессы и информационных агентств подготовил* **Михаил ГРИГОРЬЕВ**

# Даты і лёсы

### *17 лістапада*

**Міжнародны дзень студэнтаў. Адзначаецца з 1946 г. у памяць пра расстрэл нацыстамі патрыятычнай дэманстрацыі студэнтаў Прагі.**

**1588.** Памерла Крывавая Мэры — англійская каралева-каталічка Марыя Цюдор, падчас царавання якой было рэпрэсавана шмат пратэстантаў.

**1800.** Кангрэс ЗША сабраўся на сваё першае паседжанне. Прэзідэнт Джон Адамс у той жа дзень перасяліўся ў новую рэзідэнцыю, вядомую цяпер як Белы дом.

**1893.** Нарадзіўся кіраўнік ваенна-дыпламатычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі Кастусь Езавітаў. У міжваенны час быў лідэрам беларускага культурніцкага руху ў Латвіі. З восені 1944 г. кіраваў ваенным аддзелам БЦР. Памёр у 1946 г. у мінскай турме.



**1942.** Нарадзіўся Марцін Скарсэзэ ***(на здымку)***, вядомы амерыканскі кінарэжысёр.

**1964.** Выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Пра перадачу часткі тэрыторыі Мазыкінскага сельсавета са Смаленскай вобласці РСФСР у Магілёўскую вобласць БССР і частковым змяненні ў сувязі з гэтым мяжы паміж РСФСР і БССР». Сем паселішчаў Манастыршчынскага раёна па просьбе насельніцтва ўвайшлі ў склад Мсціслаўскага раёна.

**1970.** На Месяцы высадзіўся першы савецкі лунаход, кіруемы з Зямлі. Гэткім чынам СССР адказаў на шпацыры па паверхні Месяца амерыканскіх астранаўтаў.

**1988.** Рукапіс рамана «Працэс» (1925) чэшскага пісьменніка Франца Кафкі быў прададзены на аўкцыёне *Sotheby's* за мільён фунтаў стэрлінгаў — рэкордны кошт для манускрыптаў сучасных аўтараў. Варта адзначыць, што сам Кафка памёр ледзь не ў галечы і прасіў сябра знішчыць ягоныя рукапісы.

### *18 лістапада*



**1865.** У амерыканскай газеце *Saturday Press* з'явілася першае апавяданне Марка Твэна ***(на здымку)*** «Знакамітая жабка-скакуха». Твэн адразу ж стаў суперпапулярным аўтарам. Дарэчы, ён першым з літаратараў стаў друкаваць свае творы на машынцы, прычым — для зручнасці рэдагавання — адразу праз два інтэрвалы.

**1871.** Паміж гарадамі Парыж і Тур пачала дзейнічаць першая дзяржаўная лінія галубінай пошты. Кожны голуб мог несці вялікую колькасць карэспандэнцыі, бо лісты папярэдне перадымаліся на мікраплёнку.

**1901.** Нарадзіўся вядомы амерыканскі даследчык грамадскай думкі Джордж Гэлап. У 1932 г. ён правёў першае рэпрэзентатыўнае апытанне грамадскасці (па замове рэкламнага агенцтва). Сёння інстытут Гэлапа — адна з найбольш аўтарытэтных сацыялагічных арганізацыяў.

**1928.** У ЗША адбылася прэм'ера першага мультфільма з Мікі Маўсам — найбольш папулярным камедыйным артыстам пасля Чарлі Чапліна. Стужка *Steamboat Willie* была да таго ж першым гукавым мультфільмам. Агучваў ролю непераможнага мышаняці сам Уолт Дысней (а намаляваў яго Юб Айверкс).

**1936.** У Мінску адчыніўся Дом Чырвонай Арміі (з 1992 г. Цэнтральны Дом афіцэраў Узброеных Сілаў РБ). Пры ім дзейнічаў першы ў горадзе публічны басейн.

**1963.** Кампанія *Bell Telephone* пачала выпускаць першыя кнопкавыя тэлефоны.

**1978.** У Гаяне былі забітыя тры амерыканскія журналісты і адзін кангрэсмен, якія прыбылі з інспекцыяй у секту Джыма Лойда. Пасля забойства Лойд загадаў усім сваім прыхільнікам выпіць газіроўкі з цыяністым каліем. Загінула ўся секта — каля 900 чалавек (найбуйнейшае масавае самагубства стагоддзя).

**1983.** У Ліверпулі нарадзілася адразу шасцёра блізнятаў. Адзначана, што іхняя маці Джэнет Уолтан папярэдне злоўжывала таблеткамі ад бясплоднасці.

### *19 лістапада*

**1828.** Ад тыфу памёр выбітны аўстрыйскі кампазітар Франц Шуберт.

**1863.** Прэзідэнт ЗША Лінкальн выступіў са зваротам да нацыі ў гонар перамогі ў Грамадзянскай вайне, дзе сказаў знакамітыя словы: *«Урад, які створаны народам і які дзейнічае ў інтарэсах народа, — непераможны»*.

**1888.** Нарадзіўся знакаміты кубінскі шахматыст Хасэ Рауль Капабланка ***(на здымку)***, чэмпіён свету ў 1921—1927 гг.

**1893.** Газета *New York World* пачала выдаваць па суботах першы каляровы штотыднёвы дадатак.

**1938.** Нарадзіўся Тэд Цёрнэр, кіраўнік карпарацыі *CNN*.

**1952.** Шведская авіякампанія *SAS* адкрыла першую авіялінію паміж Еўропай і Амерыкай праз Паўночны полюс.

**1963.** Нарадзілася галівудская кіназорка Джодзі Фостэр («Кіроўца таксі», «Багсі Мэлоўн», «Маўчанне ягнятаў»). Упершыню яна знялася ў кіно ў 3-гадовым узросце.

**1964.** У Мінску адчыніўся ЦУМ.

**1986.** У СССР быў прыняты закон «Аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці», які легалізаваў дзейнасць дробных прадпрымальнікаў.

*Падрыхтаваў*
**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Юрыдычны адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ **1261** Нумар падпісаны ў друк **16/11/98** (15:00) Наклад — **18.170**